2 Пра "прэзідэнцкую камісію" і бытавыя праблемы
3 Малатком па галаве
5 Карэспандэнты "ГС" у Зэльве



# Газета Слонімская

Газета заснавана ў 1938 годзе. Адноўлена ў 1997 годзе.



№26 (159). 22 — 28 чэрвеня 2000г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік http://gs.promedia.minsk.by Кошт 80 руб.

# У НЯДЗЕЛЮ БЫЛА ТРОЙЦА



У мінулую нядзелю праваслаўныя вернікі святкавалі Тройцу.

Тройца ці Сёмуха, як інакш называюць гэтае свята, адзначаецца на 50-ты дзень пасля Пасхі.

Гэта свята адзначаецца на Беларусі са сваімі традыцыямі і звычаямі. Адны людзі рвуць рагоз (лепеху) і кладуць на падлогу, другія — упрыгожваюць хату галінкамі клёна. А дзяўчаты ходзяць у лес "завіваць" бярозы, плятуць вянкі і спяваюць песні.

Мінула Тройца, не за гарамі і Купалле.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

НАВІНЫ

## Поспех Жыровіцкага хору

**Нядаўна хор духоўнай семінарыі, што ў Жыровічах Слонімскага раёна, паспяхова выступіў на XIX міжнародным фестывалі царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы на Беласточчыне.**



Фота Віталя ГІЛЯ

*Кіраўнік хору Андрэй Скробат (справа)*

Хор быў адзначаны дыпломам першай ступені за высокае выканаўчае майстэрства і атрымаў спецыяльны прыз. У фестывалі ўдзельнічалі 30 творчых калектываў з 13 краін свету.

**Алег ТАЧОНЫ**

## Будзем без гарачай вады

**З 19 чэрвеня ў Слоніме спынена падача гарачай вады.**

Пра гэта карэспандэнту "ГС" паведамілі ў гарадскіх ЖЭСах. Гарачая вада з'явіцца аж 11 ліпеня. Так што месяц будзем купацца ў Шчары, а калі хто плаваць не ўмее — рыхтуйце начоўкі ці тазікі.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## АСУДЗІЛІ

**На мінулым тыдні ў Слонімскім судзе быў вынесены прысуд у дачыненні да трох маладых мужчын, якія пакінулі ў непрытомным стане на волю лёсу Святлану Дубовік. У выніку чаго яна памерла (пра гэта "ГС" пісала ў № 25).**

Дзяніс Ляшэвіч і Аляксандр Пясляк асуджаны да двух гадоў пазбаўлення волі ўмоўна з абавязковым прыцягненнем да працы на будоўлях народнай гаспадаркі. Андрэй Саўчук з улікам яго папярэдняй судзімасці пакараны да трох гадоў пазбаўлення волі ў выпраўленча-працоўнай калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Акрамя таго ўсе яны павінны кампенсаваць маральны і матэрыяльны ўрон пацярпеўшым у памеры 700 тысяч рублёў.

**Валодзя ЯНЧУК**



## Кадзеты паступаюць у Акадэмію

**Нядаўна слонімскія кадзеты-навучэнцы СШ № 9 здавалі экзамены ў Ваеннай акадэміі Рэспублікі Беларусь у Мінску.**

Па словах класнага кіраўніка кадзетаў Віктара Пензы, вынікі экзаменаў нядрэнныя. З 15 кадзетаў 11 ужо залічаны ў Ваенную акадэмію па-за конкурсам. Лёс астатніх хлопцаў стане вядомы пазней.

Слонімскія кадзеты выбралі сабе факультэты ракетных і стратэгічных, інжынерных і аўтамабільных войск, агульнавайсковы, аўтаматызаваных сістэм кіравання ды іншыя. Трэба адзначыць, што ў мінулым годзе з 15 слонімскіх кадзетаў усе 15 паступілі ў Ваенную акадэмію Рэспублікі Беларусь.

**Сяргей ЁРШ**

ЗДАРЭННІ

## Аварыя на вясковай дарозе

**Днямі ў Слонімскім раёне на вясковай дарозе, што каля вёскі Голі, здарылася аварыя.**

У выніку, адзін мужчына загінуў, другі з цяжкімі калецтвамі дастаўлены ў бальніцу.

## Не пакідайце грошай без нагляду

**Нядаўна ў Слонімскі аддзел міліцыі звярнуўся жыхар вёскі Дзераўная.**

Ён паведаміў, што з кішэні яго пінжака, які знаходзіўся ў гаражы, знікла 170 тысяч рублёў і 39 амерыканскіх даляраў.

**А.М.**

## ПАВАЖАНЫЯ СЯБРЫ!

**У** суботу, 25 чэрвеня, заканчваецца падпіска на нашу газету на другое паўгоддзе 2000 года.

**Д**ля жыхароў Слоніма і Слонімскага раёна **КОШТ ПАДПІСКІ** на месяц вельмі танны — **УСЯГО 200** рублёў.



НАШ ПАДПІСНЫ індэкс — 64042

# ПРА "ПРЭЗІДЭНЦКУЮ КАМІСІЮ" І БЫТАВЫЯ ПРАБЛЕМЫ

**У Зэльве на плошчы Леніна да нас падышла бабуля. Пацікавілася, ці не з прэзідэнцкай камісіі мы? Аказалася, што ў Зэльву якраз прыехала камісія камітэта дзяржаўнага кантролю, чалавек трыццаць. Вось і шукалі тую камісію некаторыя зэльвенцы, каб расказаць пра крыўды і беды. Аляксандра Васільеўна Пачабыт (так звалі бабулю) распавяла нам пра свае кватэрныя праблемы і не толькі.**

Аказалася, што ў 1939 годзе яна вучылася ў слонімскай гімназіі імя Т.Касцюшкі. У Слонім з вёскі Залацеева яе завёз на возе бацька. Калі прыйшлі саветы, Аляксандра Васільеўна вучылася ў Дзярэчыне. А пасля была вайна, калі яна з'яўлялася партызанскай сувязной. У пасляваенны час працавала інспектарам РАЙФА. Час быў неспакойны — на Зэльвеншчыне "людзьмі з лесу" было забіта сем агентаў фінаддзела. Муж Аляксандры Пачабыт, Мікалай Іванавіч, быў актывістам КПЗБ. Перад вайной працаваў у Слоніме ў міліцыі. Ваяваў на фронце.

У Зэльве ў шостым доме на вуліцы Перамогі Пачабыты пасяліліся 29 год таму. Па словах Аляксандры Васільеўны, адразу пачаліся праблемы. У новай кватэры зношанымі аказаліся газавая пліта, калонка, ракавіна. Калі не стала мужа, Аляксандры Васільеўне зусім цяжка даводзілася, бо дзеці раз'ехаліся па ўсім былым Саюзе. Кватэра патрабавала капітальнага рамонту. Жанчына звярталася ў розныя інстанцыі. Час ад часу ёй дапамагалі, штосьці рабілі ў кватэры.

Сёння ў кухні прагніла падлога, ужо паўгода не працуе газавая калонка і няма гарачай вады... За сваю пенсію ў 15 тысяч рублёў Аляксандра Васільеўна, зразумела, рамонт зрабіць не можа. Таму спадзяецца, што мясцовыя ўлады ёй дапамогуць стварыць людскія ўмовы жыцця.

Можна з упэўненасцю канстатаваць, што сёння шмат такіх адзінокіх, нямоглых людзей, якім


Фота Віталя ГІЛЯ

цяжка самім вырашыць бытавыя праблемы. Вельмі часта іх забываюць, не заўважаюць. Іншы раз згадваюць напярэдадні нейкіх святаў...

**Сяргей ЁРШ**

# ПРАВИТЕЛЬСТВО УСИЛИВАЕТ КОНТРОЛЬ

**Белорусское правительство продолжает усиливать контроль над ценообразованием.**

Согласно постановлению Совета Министров, "в целях улучшения информационного обеспечения и контроля за уровнем цен" с 1 июля 2000 года решения юридических лиц и индивидуальных предпринимателей об установлении цен на товары, производимые в Беларуси, ввозимые на ее территорию в таможенном режиме "выпуск товаров для свободного обращения", а также ввозимые из России, "хранятся в установленном порядке этими субъектами, но не менее трех лет с даты принятия соответствующего решения".

Информация о ценах на товары должна предоставляться в Министерство экономики "в течение пяти рабочих дней с даты принятия соответствующего решения".

К нарушителям вышеназванных требований органы, "осуществляющие регулирование и контроль за ценообразованием", применяют "меры экономической ответственности в виде штрафа в размере до 10 процентов от стоимости реализованных товаров, в части цен на которые произведено нарушение".

До вступления в действие этих положений Министерству экономики предписано утвердить порядок предоставления юридическими лицами и индивидуальными предпринимателями информации о ценах на товары.

**Дмитрий ВЛАСОВ**

## Грыб быў у Слоніме

**Слонім наведаў Мечыслаў Грыб — кіраўнік групы наглядальнікаў па падрыхтоўцы да выбараў у беларускі парламент. Выбары павінны адбыцца восенню бягучага года.**

Разам з ім прыехалі ў наш горад кіраўнік Гродзенскай абласной рады БНФ Сяргей Мальчык і былы дэпутат Вярхоўнага Савета РБ Мечыслаў Гіруць.

Усе госці сустрэліся з сябрамі Слонімскай арганізацыі БНФ, дзе ішла размова аб падрыхтоўцы да выбараў.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## Газетны кіёск на Зорнай вуліцы

**На мінулым тыдні ў слонімскім мікрараёне "Альбярцін" на Зорнай вуліцы пачаў працаваць газетны кіёск.**


Фота Віталя ГІЛЯ

Трэба адзначыць, што калісьці ў гэтым мікрараёне было два газетныя кіёскі. Пасля іх ліквідацыі, доўгі час, каб купіць газету, мясцовыя жыхары вымушаны былі ездзіць у цэнтр горада.

**Алег ТАЧОНЫ**

## Прайшла канферэнцыя

**На мінулым тыдні ў Слоніме прайшла міжнародная навуковая канферэнцыя "Магнаты Вялікага княства Літоўскага як мецэнаты культуры".**

На жаль не ўсе яе ўдзельнікі-навукоўцы змаглі прыехаць у Слонім, таму са зместам іх дакладаў можна будзе пазнаёміцца толькі ў адмысловым зборніку матэрыялаў, які павінен з часам пабачыць свет. Што да самой канферэнцыі, дык кідалася ў вочы слабая яе арганізацыя. Выступоўцы прамаўлялі без мікрафона, зала не была адпаведна аформлена, а ў ёй была б зусім не лішняй выява таго ж Льва Сапегі. Прыкра, што мала прысутнічала на канферэнцыі слонімцаў, але гэта можна аднесці да тых жа арганізацыйных хібаў...

**Сяргей ЁРШ**

## Сколько в Беларуси земли

**Согласно правительственных отчетов о наличии земель в республике, общая площадь земель в Беларуси составляет 20759,6 тысячи гектаров.**

Из них под сельхозугодия занято - 9281,5 тысячи гектаров, в том числе пахотных - 6181,7 тысячи, леса занимают - 8414,5 тысячи гектаров, болот у нас - 959,2 тысячи, земель под водой - 476,5 тысячи. Общая площадь земель колхозов, совхозов и других сельхозпредприятий составляет 9397,2 тысячи гектаров, земель граждан - 1517,5 тысячи. Радиационно-опасные земли (расположенные в зоне радиоактивного загрязнения, на которых не обеспечивается производство продукции) занимают около 248,9 тысячи гектаров.

**Сергей СНЕГИН**

## Стали майорами милиции

Недавно начальник Гродненского Управления МВД генерал Белошевский присвоил звание "майор милиции" начальнику оперативно-дежурной службы Сергею Комарову и заместителю отдела Зельвенской милиции Сергею Морозу.

**Михаил ОКУЛКО**

# КОНГРЕСС ПРОЙДЕТ В ИЮЛЕ

**Минский горисполком разрешил проведение Конгресса демократических сил (КДС) Беларуси. Он пройдет 2 июля с 9.00 до 19.00 часов в помещении Дворца культуры тонкосуконного комбината в Минске.**

На заседании оргкомитета конгресса 17 июня были утверждены квоты представительства на конгрессе для основных политических демократических партий, движений, организаций, профсоюзов и представителей белорусской интеллигенции. В общей сложности ожидается участие в конгрессе более 900 делегатов.

Кроме того, на форум решено пригласить иностранных гостей: представителей посольств западных государств, консультативно-наблюдательной группы ОБСЕ в Минске и парламентариев соседних с Беларусью государств — Польши, Украины, России, Литвы, Латвии и некоторых других.

Планируется, что КДС примет три резолюции — об отношении демократических сил к предстоящим парламентским и президентским выборам, о поддержке Всебелорусского съезда за независимость, а также о создании региональных Координационных советов демократических сил.

**БелаПАН**

# "ЗАЧИСТКА" ПРОДОЛЖАЕТСЯ

**19 июня Минский городской суд вынес приговор в отношении председателя Белорусской социал-демократической партии (Народная Грамада) Николая Статкевича и депутата Верховного Совета 13-го созыва Валерия Щукина.**

Суд признал Николая Статкевича виновным в организации и активном участии в двух прошлогодних акциях протеста и приговорил его к двум годам лишения свободы с отсрочкой исполнения наказания на два года. Валерий Щукин признан виновным в активном участии в "Марше свободы" в октябре 1999 года и приговорен к одному году лишения свободы с отсрочкой исполнения приговора на один год.

В ходе судебного разбирательства оба обвиняемых своей вины не признали. Однако суд, основываясь, по словам судьи И.Крота, на документальных фактах, оперативной видеозаписи и свидетельских показаниях, признал оппозиционеров виновными в инкриминируемых им преступлениях.

Лидер БСДП (НГ) назвал решение суда "очередным этапом зачистки белорусского политического поля". "Борьба против возможных противников на выборах продолжается", — сказал Н.Статкевич. По его словам, не осмелились лишить их свободы только из-за того, что экономика страны находится в "провале" и власти "нуждаются в западных кредитах".

В.Щукин также считает, что приговор носит политический характер. Его цель, сказал правозащитник, "лишить человека возможности свободно передвигаться". При этом он заявил, что не намерен ходить отмечаться в милицию, как это предписано решением суда.

Оба оппозиционера высказали несогласие с судебным решением и намерены обжаловать его в Верховном суде.

**БелаПАН**

**Гэты роў, які знаходзіцца на вуліцы Яршова каля дома №40, выкапалі камунальнікі ЖЭС №2 яшчэ тры месяцы назад.**


Фота Віталя ГІЛЯ

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.97г.
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас рэдакцыі: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны: рэдакцыі .........2-14-39
.........(017) 210-87-17
аддзел рэкламы .........2-49-39

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць. Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 21 чэрвеня 2000г. Час падпісання 7:00.
Надрукавана ў Слонімскай узбуйненай друкарні, г. Слонім, вул. Хлюпіна, 16.

Падпісныя індэксы: 64042 (індывідуальная) 63818 (ведамасная)
Наклад 8500 экз.
Заказ №2285

E-MAIL:gs@irex.minsk.by HTTP://gs.promedia.minsk.by

# НА ОПТОВУЮ ТОРГОВЛЮ НОВЫЕ ЛИЦЕНЗИИ

**С 1 июля в Гродно вводятся новые лицензии на оптовую торговлю.**

В соответствии с решением горисполкома их обязаны получить юридические лица и индивидуальные предприниматели, осуществляющие торговую посредническую деятельность по оптовой торговле товарами несобственного производства, путем заключения договоров купли-продажи и мены. Срок действия лицензии — 5 лет. Получение разрешения на оптовую торговлю товарами собственного производства не требуется. Исключение также сделано для импортеров, осуществляющих оптовую торговлю товарами иностранного производства, и всех субъектов хозяйствования, которые занимаются оптовой торговлей иностранными производственными товарами, предназначенными для непосредственного потребления гражданами.

Ася КУНИЦКАЯ

## Не женское дело

**Совет Министров Беларуси утвердил Список тяжелых работ и работ с вредными условиями труда, на которых запрещается применение труда женщин.**

В списке — более 250 профессий и специальностей. Среди них — боец скота, взрывник, вышкомонтажник, дозировщик ртути, дровокол, заливщик металла, кондуктор грузовых поездов, котельщик, машинист укладчика асфальтобетона, обработчик шкур, плотник и другие.

Сергей СНЕГИН

## Артысты юныя і сталыя

**Ужо 10 гадоў у Дзятлаўскай СШ №1 працуе драматычны гурток, якім кіруе дырэктар РДК Васіль Шыцько.**

За гэты час артысты паставілі на школьнай сцэне шмат прадстаўленняў на сваёй і на англійскай мове. У пастаноўках удзельнічаюць не толькі дзеці, але і бацькі некаторых вучняў і настаўнікі.

## НОВЫЯ экспанаты

У Дзятлаўскі гісторыка-краязнаўчы музей набыты новыя экспанаты: швейная машынка "Фінгер", якая выпушчана ў канцы мінулага стагоддзя, а таксама старажытныя ліхтар, падсвечнік і іншае.

Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ

## Свята розных народаў

**Цікавая ўрачыстасць адбылася ў мястэчку Радунь Воранаўскага раёна.**

Мясцовае аб'яднанне літоўцаў наладзіла ў Доме культуры вечарыну дружбы з нагоды завяршэння навучальнага года ў нядзельнай школе. На імпрэзу прыйшлі тутэйшыя беларусы, палякі, рускія і нават цыганы. Пасля віншаванняў гучалі песні розных народаў, прадстаўнікі якіх пражываюць у Радуні і навакольных вёсках. На сустрэчы прысутнічалі старшыня аб'яднання літоўскіх суполак Беларусі Віргілія Тарнаўкаўтэ і старшыня Воранаўскага райвыканкама Васіль Сцяпура.

Валянціна МАХНАЧ

## Асноўны занятак — п'янства

**У Мастоўскай інспекцыі па справах непаўналетніх зараз на ўліку стаіць 74 падлеткі.**

68 працэнтаў з іх патрапілі на ўлік за п'янства, астатнія — за крадзяжы і хуліганства. Згодна слоў намесніка старшыні камісіі па справах непаўналетніх пры райвыканкаме Алены Опалевай, палова з іх — дзеці з даволі прыстойных сямей.

Антон МАКЕЙ

## Вось дык спадчына

**Пасля ліквідацыі калгаса "Зара" паміж саўгасам "Мастоўскі" і калгасам "Ленінец" былі падзелены палі, сенажаці, гаспадарчыя пабудовы, тэхніка і жывёла.**

Урэшце, дзяліць не было чаго. Саўгасу "Мастоўскі", прыкладам, дасталіся некалькі соцен кароў, пяць коней ды пара трактароў.

Антон МАКЕЙ

## "Дзень зачыненых дзвярэй" у акцыянерным таварыстве

**У шыкоўным шматпавярховым будынку ў Лідзе знаходзіцца адкрытае акцыянернае таварыства "Лідаспецаўтатранс".**

Нядаўна там адбыўся справаздачны сход. Усё было як належыць. Але настрой акцыянерам сапсаваў такі факт: дзверы прыбіральняў на ўсіх паверхах былі забіты дошкамі. Аказваецца, на гэты дзень там запланавалі прафілактычныя работы водаправоднай сеткі. А каб госці не прабраліся туды, куды і цар пешшу хадзіў, закалацілі туалеты дошкамі.

Валянціна МАХНАЧ

ЗДАРЭННІ

## Малатком па галаве

**У вёсцы Хадзявічы Слонімскага раёна мясцовы жыхар пасварыўся са сваёй сужыцелькай.**

Пасля схапіў малаток і тры разы стукнуў яе па галаве.

Жанчына з цяжкай траўмай галавы дастаўлена ў бальніцу.

## Украў грошы з кватэры

**Пакуль рабочы з "Мастоўдрэў" быў на працы, з яго кватэры невядомы ўкраў 500 даляраў ЗША і 19 тсяч беларускіх рублёў.**

Міліцыя шукае злодзея.

Міхась АКУЛКА

## Прыйшоў, каб застацца назаўсёды

**Адзін з жыхароў Дзятлаўскага раёна, які дэмабілізаваўся з арміі, прыехаў у райваенкамат, каб стаць на вайсковы ўлік.**

Там ён сустрэўся з сябрамі, і яны ўсе разам пайшлі на возера купацца, дзе салдат утапіўся.

Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ

## Згарэў цялятнік

**У калгасе "Кастрычнік" Слонімскага раёна здарыўся пажар.**

Падчас навальніцы маланка трапіла ў цялятнік, які загарэўся. Агонь цалкам знішчыў будынак. Страты ўдакладняюцца.

Алег ТАЧОНЫ

## "Разборкі" на дыскатэцы

**У мінулую нядзелю малада жыхар вёскі Кашалі Зэльвенскага раёна быў дастаўлены ў Слонімскую бальніцу з цяжкай траўмай галавы.**

Яе ён атрымаў у выніку ўдару кіём. Стукнуў яго непаўналетні з вёскі Сялявічы падчас бойкі, якая ўзнікла паміж удзельнікамі дыскатэкі, што праходзіла ў вёсцы Кракотка Слонімскага раёна.

Валодзя ЯНЧУК

## Дапамогу аказалі своечасова

**Стоячы ў чарзе па зарплату, пачала губляць прытомнасць адна з работніц Мастоўскай бальніцы. Калегі своечасова аказалі ёй медыцынскую дапамогу.**

Справа ў тым, што ў Мастах стала нормай затрымка зарплаты медыкам. У той дзень медработнікі пакінулі свае працоўныя месцы і памкнулі да касы, дзе падчас таўкатні жанчыне зрабілася дрэнна. Гэты выпадак здарыўся напярэдадні Дня медыцынскага работніка.

Антон МАКЕЙ

## "Вучоныя"... злодзеі

**Крупаўская бібліятэка Лідскага раёна знаходзіцца на водшыбе вёскі ў аварыйным будынку.**

На яго рамонт сродкаў няма. Гэтую акалічнасць выкарысталі злодзеі. У адну з начэй яны трапілі ў памяшканне і выкралі ўсе тамы Савецкай і Беларускай энцыклапедый і іншыя энцыклапедычныя выданні. Не абмінулі злодзеі і іншай літаратуры: кнігі пра каханне, прыгоды і інш. Усяго скрадзена не менш як тысяча асобнікаў.

Валянціна МАХНАЧ

# Падатковая інспекцыя яшчэ раз ПРОСІЦЬ ЗАПЛАЦІЦЬ

**Згодна з паведамленнямі інспекцыі Дзяржаўнага падаткавага камітэта па Мастоўскаму раёну па стану на 1 красавіка 2000 года свае даходы задэклараваліі 497 грамадзян.**

3 іх 263 чалавекі — прадпрымальнікі і 234 — фізічныя асобы. У выніку пераліку падатку яны далпілі дзяржаве 1336 тысяч дэнамінаваных рублёў. Але на думку начальніка аддзела кантролю за падаткам фізічных асоб інспекцыі Васіля Гуліча, гэта толькі 50% грамадзян ад мяркуемай колькасці. Нягледзячы на тое, што мінуў тэрмін падачы ўдакладненых дэкларацый, а таксама тэрмін уплаты падатку на дэкларацыі, падатковая інспекцыя яшчэ раз звярнулася да грамадзян, каб тыя добраахвотна прыйшлі ў інспекцыю і запоўнілі дэкларацыю.

Антон МАКЕЙ

# ЖИЛЬЕ ДОРОЖАЕТ

**Постановлением Министерства экономики вновь существенно повышена ставка квартплаты (техобслуживания — для приватизированных квартир). Плата за пользование одним квадратным метром общей площади выросла на 30 процентов — с 3,74 до 4,86 деноминированного рубля.**

Предыдущее повышение ставки квартплаты — на 11,6 процента — произошло в конце апреля, а с начала года она выросла уже в 2,2 раза. Тарифы на коммунальные услуги увеличились с января в 1,5–2,1 раза, тогда как потребительские цены в целом — в 1,5 раза. Опережающий рост тарифов связан с политикой сокращения перекрестного субсидирования коммунальных услуг, предоставляемых населению за счет промышленных предприятий.

БелаПАН

# ЗАСПЯВАЎ "АЛЬБЯРЦІН"

**У клубе кардонна-папяровага завода "Альбярцін" прайшоў агляд мастацкай самадзейнасці сярод працаўнікоў гэтага прадпрыемства. Удала выступілі ветэраны, якія спявалі песні Вялікай Айчыннай вайны і прыпеўкі. Канцэрт прысутным спадабаўся.**

Віталь ГІЛЬ, фота аўтара



## Студэнтамі сталі датэрмінова

**Яшчэ не здаўшы выпускных экзаменаў, будучыя выпускнікі другой гарадской школы Мастоў Алена Бобрык і Ірына Папова былі залічаны студэнтамі Гродзенскага універсітэта.**

Яны паспяхова вытрымалі тэсты, якія праводзіла гэтая вучэбная ўстанова для жадаючых паступіць на матэматычны факультэт.

Язэп ПАЛУБЯТКА

## Новые кодексы

**Новые Уголовный, Уголовно-процессуальный и Уголовно-исполнительный кодексы Республики Беларусь будут введены в действие с 1 января 2001 года.**

Такое решение было принято на совещании руководителей заинтересованных структур, которое прошло 12 июня под председательством президента Александра Лукашенко. Ранее планировалось, что кодексы вступят в действие с 1 июля нынешнего года. Смещение сроков связано с неготовностью некоторых субъектов к выполнению норм нового уголовного законодательства.

Вячеслав БУДКЕВИЧ

## Зноў карміць не будзе чым

**Мастоўскі райаграпрамхарч занепакоены тэмпамі нарыхтоўкі кармоў.**

На сённяшні дзень нарыхтавана толькі па 1,6 цэнтнера кармавых адзінак на адну галаву жывёлы. Гэта менш, чым у мінулым годзе. А ў калгасах імя Чапаева, "Ленінец", "Маяк" і "Чырвоны партызан" няма нават і па аднаму цэнтнеру кармавых адзінак у разліку на адну ўмоўную галаву.

Язэп ПАЛУБЯТКА

## ПАЛЯВАННЕ НА ДЗІКОЎ

**Апошнім часам жыхары Дакудаўскага сельсавета Лідскага раёна свае бульбяныя палеткі абараняюць з дапамогай сабак і са стрэльбамі ў руках.**

Прычынай таму сталі дзікі, якія, убіўшыся на поле, цалкам знішчаюць пасевы. Узброеныя вяскоўцы робяць засады, але дзікі пакуль пазбягаюць адплаты. Больш надзейны сродак — навязваць каля палеткаў сабак. Пачуўшы іх брэх, звяры абыходзяць такія мясціны.

Валянціна МАХНАЧ

## Дьявольский союз

**Союз с "путинской Россией" не может благоприятно повлиять на Беларусь.**

Такое мнение в интервью БелаПАН высказал известный российский правозащитник, депутат Государственной думы РФ Сергей Ковалев, который находится в Вильнюсе на Международном конгрессе по оценке преступлений коммунизма.

"Это будет дьявольский союз и ни к чему хорошему он не приведет", – считает правозащитник. В лице Путина, по его словам, к власти в России пришел КГБ. Александр Лукашенко, отметил С.Ковалев, уже высказывает удовлетворение по поводу происходящих в России изменений, которые он воспринимает как воспроизведение в российских реалиях белорусской модели управления.

Та часть белорусской оппозиции, которая надеется на то, что Россия сможет повлиять на смещение режима Лукашенко, "глубоко заблуждается", считает правозащитник. Напротив, заметил он, в процессах, происходящих в Беларуси, "очень ощутима русская вина": именно российское руководство в 1996 году "развязало руки" нынешнему белорусскому режиму.

**Юрий ПОТЕМКИН**

## СЕМИНАР аграномов

**В Щучине прошла международная научно-практическая конференция на тему "Адаптивная интенсификация земледелия на рубеже столетий".**

Она была приурочена к 90-летнему юбилею Гродненского зонального научно-исследовательского института сельского хозяйства. Участники посетили опытное поле, где были продемонстрированы посевы и сделаны тематические сообщения по вопросам оригинального семеноводства и сортовой агротехники сельскохозяйственных культур.

**Ася КУНИЦКАЯ**

## Сьезд предпринимателей в Гродно

**Учредительный съезд республиканской структуры предпринимателей планируется провести в Гродно 26 июня.**

Как сообщил БелаПАН один из лидеров профсоюзного движения в среде предпринимателей Валерий Левоневский, проведение съезда неоднократно переносилось по разным причинам – как финансовым, так и организационным (например, отказ в предоставлении помещения в Минске для этих целей). Сейчас, по словам В.Левоневского, ситуация изменилась. Прежде всего, организаторам удалось накопить денег. Что же касается места проведения мероприятия, то, как утверждает Левоневский, "если нам не дадут помещение, мы поедем на природу и проведем съезд там".

Съезд должен определить форму учреждаемой организации – будет ли это профсоюз или союз предпринимателей. Необходимость создания новой структуры, по мнению инициаторов, вызвана "мягкотелостью" ныне существующих организаций, их неспособностью отстаивать интересы частных предпринимателей.

**Наталья КУЛАГИНА**

## Всех на уборку урожая

**Совет Министров Беларуси обязал органы государственного управления и местную исполнительную власть принять срочные меры по подготовке к уборке урожая сельскохозяйственных культур и проведению сева озимых.**

Прежде всего эти действия будут направлены на оказание срочной финансовой помощи сельскохозяйственным предприятиям. В частности, в июне – июле облисполкомы выделят колхозам и совхозам 12 миллиардов рублей на оплату услуг по ремонту кормо- и зерноуборочных комбайнов. Еще 1,3 миллиарда поступят на эти же цели от Министерства финансов. До 20 июля в колхозах и совхозах пройдут смотры готовности сельскохозяйственной техники.

**БелаПАН**

## В Лиде больше СПИДа

**В Гродненской области растет число ВИЧ-инфицированных. Причем, начиная с сентября прошлого года, этот процесс приобрел интенсивный характер, и на сегодняшний день в области зарегистрированы 93 инфицированных.**

69 процентов из них составляют мужчины. 85 процентов заразились при употреблении наркотиков, 14 процентов – половым путем. В марте этого года ВИЧ-инфекция была выявлена у полуторагодовалого ребенка, родители которого инфицированы. Среди заразившихся основную массу (67,5 процента) составляют люди в возрасте 20–29 лет.

По числу инфицированных в области лидирует город Лида, где вирус выявлен у 73 человек.

**Ася КУНИЦКАЯ**

## ЗЕМЛЮ – КРЕСТЬЯНАМ

**Аграрную проблему в Беларуси может решить только одним способом – передать землю крестьянам.**



Такое мнение высказал заведующий сектором социального развития села Белорусского научно-исследовательского института аграрной экономики, кандидат экономических наук Михаил Антоненко, выступая на международной научной конференции "Аграрная экономика: история, проблемы, перспективы", которая прошла в Белорусской государственной сельскохозяйственной академии (Горки, Могилевская область).

От государственной собственности на землю, которая предполагает лишь передачу земли в пользование колхозам и совхозам, необходимо перейти к передаче земли крестьянам в аренду на длительный срок, считает ученый. Указ президента о порядке государственной регистрации и ликвидации субъектов хозяйствования от 16 марта 1999 года, по словам М.Антоненко, создал достаточную законодательную базу для проведения аграрной реформы. Крестьяне могут получать в аренду часть или всю землю колхозов и совхозов, учреждать семейное фермерское хозяйство и крестьянское хозяйство, основанное на совместной коммерческой деятельности нескольких семей.

"Если мы хотим провести реформу в рамках "бархатной" революции, то необходимо на определенный период времени сохранить сосуществование в сельском хозяйстве как административно-командной, так и рыночной систем, чему бы я дал название "одна страна – две системы", – сказал ученый. Рыночная система сегодня представлена небольшим количеством семейных фермерских хозяйств, которые производят лишь один процент валовой продукции АПК. В процессе его постепенной трансформации, считает М.Антоненко, появляется возможность уже в нынешнем году преобразовать в крестьянские хозяйства до 300 бывших колхозов и совхозов и поднять долю рыночного сектора в производстве сельхозпродукции до 5–10 процентов, а в течение ближайших 4–5 лет – до 70 процентов.

"Я думаю, что если в ближайшие годы правительство продолжит политику некоторого экономического ограничения нерыночной системы и все возрастающей помощи крестьянским хозяйствам, то аграрная реформа будет протекать в Беларуси с наименьшими издержками для крестьян и, в целом, для общества", – заключил Михаил Антоненко.

**Марат ГОРЕВОЙ**

## Демократы были в Слониме

**Белорусская социал-демократическая партия (Народная Грамада) и Социал-демократическая партия Германии, правящая в своей стране, договорились о развитии партнерских отношений между региональными партийными организациями. Это стало основным итогом завершившегося вечером 16 июня визита в Беларусь делегации СДПГ.**

Как сообщил БелаПАН международный секретарь БСДП (НГ) Павел Гормаш, немецкие социал-демократы во главе с вице-президентом земли Шлезвиг-Гольштейн Габриэлой Кётшау находились в Беларуси с 11 по 16 июня. В ходе визита немецкая делегация посетила Барановичи, Новополоцк, Сморгонь, Слоним, Могилев, Поставы, Гомель, Гродно, Солигорск, Слуцк. Там прошли встречи с региональными лидерами БСДП (НГ) и представителями местной исполнительной власти.

## Граница будет на замке

**В соответствии с планом интеграции Польши в Европейский Союз, этой стране ежегодно будет выделяться 30 миллионов евро для укрепления восточных границ с Беларусью, Украиной и Россией.**

Правительство Польши должно представить детализированный план приведения пограничного контроля на будущей восточной границе Евросоюза в соответствие с требованиями этой международной организации. Контролю, в частности, должен подвергаться каждый человек, прибывающий с Востока. Вдоль границы должно быть создано значительно большее количество застав, оснащенных современным оборудованием.

Согласно еще одному условию Евросоюза, граждане из СНГ могут получить в Польше работу лишь тогда, когда на нее не претендует никто из граждан Польши или стран ЕС. Евросоюз уже сейчас предлагает Польше ввести жесткий визовый контроль в отношении к гражданам 15 восточноевропейских стран, в том числе Беларуси, Украины и России.

**БелаПАН**

## В Румынию по визам

**Правительство Румынии объявило о введении с 1 июля 2000 года визового режима для Республики Беларусь.**

С введением визового режима для въезда в Румынию или для пересечения ее территории транзитом белорусским гражданам необходима виза, которую можно оформить в посольстве Румынии в Минске или в любом другом дипломатическом представительстве Румынии в Беларуси. Визы выдаются при предъявлении приглашений, ваучеров, туристических или санаторно-курортных путевок. Основанием для выдачи транзитных виз является виза страны следования.

Необходимо также оформить визу тем гражданам Республики Беларусь, которые выезжают в Румынию или следуют транзитом через ее территорию до введения визового режима, но планируют возвращаться через территорию Румынии 1 июля и позднее.

**Ирина САЗАНОВИЧ**

## НА 15 ПРОЦЕНТОВ ВЫРОСЛИ ТАРИФЫ НА УСЛУГИ ТЕЛЕФОННОЙ СВЯЗИ

**Отныне стоимость разговоров в пределах области составляет для населения 4,7 рубля за минуту (ранее – 4,1), в пределах республики – 9,4 (8,2).**




Минута разговора с домашнего телефона, переведенного на повременную оплату, обойдется теперь в 1,72 рубля (ранее – в 1,5 рубля). Абонентская плата за пользование телефоном, переведенным на повременную оплату, увеличилась с 254 до 292 рублей, непереведенным – с 408 до 469 рублей.

Стоимость телефонной магнитной карточки на 120 минут возросла с 665 до 765 рублей.

Кроме того, подорожали услуги доступа абонентов телефонной сети общего пользования к абонентам мобильной связи стандарта GSM – с 66 до 76 рублей за минуту в рабочие дни (с 6 до 23 часов) и с 35 до 40 рублей в рабочие дни (с 23 до 6 часов), а также круглосуточно в выходные и праздничные дни.

Тарифы на международную телефонную связь остались на прежнем уровне.

Предыдущее подорожание услуг телефонной связи произошло 16 мая.

## БЕЛАРУСЬ ПЕРЕХОДИТ НА МЕЖДУНАРОДНУЮ ТЕЛЕФОННУЮ НУМЕРАЦИЮ ВО ВЗАИМООТНОШЕНИЯХ С РОССИЕЙ

**19 июня по рекомендации Международного союза электросвязи Беларусь переходит во взаимоотношениях с Россией на международную телефонную нумерацию.**

Чтобы позвонить российскому абоненту, житель Беларуси теперь должен набрать после традиционной "восьмерки" цифры 10 и 7 и только потом – код нужного населенного пункта и номер телефона абонента. На примере Москвы это выглядит так: 8-10-7-095-номер телефона.

Что касается "обратной связи", то россияне набирают международный код Беларуси (8-10-375) уже несколько месяцев.

**БелаПАН**

# ЗЭЛЬВА

Зэльва – цэнтр раёна, размешчанага паміж Слонімам, Ваўкавыскам, Мастамі і Ружанамі. Жыццё там ідзе павольна, можа нават




марудна. Многія зэльвенцы скардзяцца на правінцыйнасць свайго гарадка, на яго адарванасць ад гісторыі і часу. Але, відаць, гэта не зусім так. Зэльвеншчына прыцягвае да сябе ўвагу і сталічнай, і замежнай публікі. Штогод у Зэльву прыязджаюць прадстаўнікі эліты беларускай нацыі – пакланіцца магіле вялікай беларускай патрыёткі, славутай паэткі і добрага чалавека Ларысы Геніюш. Шкада толькі, што самі зэльвенцы мала прыкладаюць высілкаў для ўшанавання яе памяці, і да гэтага часу тут няма ні помніка, ні мемарыяльнай шыльды ў яе памяць...

Наведаўшы галоўную плошчу Зэльвы, якая носіць імя Леніна, можна заўважыць, што мясцовыя жыхары вельмі любяць свой горад. Гасцініца называецца "Зэльва", а рэстаран – "Зяльвянка". У Слоніме рэстаран і гасцініца называюцца – "Шчара" (яшчэ адзін


У цэнтры пасёлка


Далей ад Леніна

рэстаран – "Слонімскі"). Такіх паралелей можна прывесці шмат. Вось і кінатэатры ў Слоніме і Зэльве называюцца аднолькава – "Мір".

На вуліцы Чапаева ў Зэльве размяшчаецца міні-рынак, які працуе (калі верыць шыльдзе) з 8 раніцы да 14 гадзін. У будні дзень ён быў невялічкі, але, кажуць, што ў выхадныя рынак значна большы. Трэба адзначыць, што рынак у Зэльве вядомы з пачатку XVII стагоддзя, але, напэўна, ён быў і раней. У 1720 годзе Зэльва атрымала прывілей на таргі і кірмашы. Калісьці сюды ехалі сяляне з бліжэйшых вёсак і мястэчак, каб штосьці прадаць ці набыць. Сёння ж самі зэльвенцы стараюцца паехаць у Гродна, Ваўкавыск, Слонім ці Мінск, дзе на рынках большы выбар і можна купіць добрую рэч.

Нядаўна мясцовыя "франтаўцы" запланавалі правесці пікет "у падтрымку мясцовых уладаў". Яго арганізатары хацелі сабраць грошай для мясцовых чыноўнікаў, бо тыя, нібыта, скардзіліся на малыя зарплаты. Улады, аднак, палічылі, што ў такой дапамозе яны не маюць патрэбы і дазволу на правядзенне пікету не далі...

Падчас нашага знаходжання ў Зэльве, у крамах горада праходзіў абласны конкурс маладых прадаўцоў.

**Сяргей ЁРШ**

ТРЫБУНА

# Пра сваё жыццё ў Зэльве ГАВОРАЦЬ ЯЕ ЖЫХАРЫ

**На днях карэспандэнты "Газеты Слонімскай" пабывалі ў Зэльве. Як жывецца зэльвенцам? Што іх хвалюе? Дзе яны праводзяць свой вольны час? Такія пытанні журналісты задавалі жыхарам гэтага невялікага пасёлка. Адказы былі самыя розныя.**

**Валера і Вольга**: – Нармальна жывем. Яшчэ цярпіма, таму не скардзімся... Хацелася б, каб рынак быў большы, а не такі,



як цяпер. Ды каб у другім месцы знаходзіўся, бо цяпер ён размешчаны не ў лепшым месцы. Хацелася б, каб і магазінаў было больш, а ў іх разнастайных тавараў, таннейшых і якасных. Куды ходзім адпачываць? На пляж, возера, лес. Прырода ў нас цудоўная.

**Алена Міхайлаўна**, *пенсіянерка*: – Ездзіла да дачкі неяк у Мінск і ў электрычцы сустрэла жанчын з калясками. "Адкуль вы?" – пытаюся. "З Мінска– кажуць, – прадавалі тое, што лішняе". Вось і я вырашыла туды ездзіць і прадаваць



лішняе. У апошнія дні прадаю клубніку там і ў Зэльве. Але вельмі танна. Усяго за 5-літровае вядзерца 4-4,5 тысячы рублёў. Прадала ўжо дзесяць вёдзер. Жыць жа трэба. Што той пенсіі – усяго 25 тысяч рублёў. Жыву ў Зэльве адна з сынам, які нідзе не працуе, а ў Мінску дачцэ трэба дапамагаць. Вось і кручуся, як вавёрка ў коле.

**Аляксандр Ігнацьевіч Мікеня**, *пенсіянер*: – Які ў нас горад? Вялікая вёска!.. Хацелася б, каб хлеб быў таннейшы. Бо і ў Слоніме, і ў Ваўкавыску ён каштуе танней, чым у нас, у Зэльве... Я калісьці ў Слоніме працаваў, у 11-й аўтабазе. Калі ў Зэльве з'явіўся філіял прадпрыемства, дык стаў працаваць тут. Цяпер на пенсіі.



**Дзіна, Алена і дзве Ірыны**, *вучаніцы 11 "В" класа СШ N 2 г. п. Зэльвы*: – У Зэльве жыць вельмі сумна. Адпачываць няма дзе. У РДК некалькі гадоў назад прыязджаў Аляксандр Саладуха, вось і ўсё. Летам ратуе возера. Вечарамі ходзім на дыскатэкі. Хутчэй куды-небудзь паехаць адсюль, бо ад суму і адзіноты можна памерці.



**Святлана Пятроўна Галінік**, *работнік газетнага кіёска*: – У нас у Зэльве толькі два газетныя кіёскі: гэты і на аўтавакзале. На Паркавай вуліцы кіёск вельмі ўдала стаіць, бо тут заўсёды шматлюдна... Газеты людзі купляюць танныя, асабліва з праграмай. Добра ідуць крымінальныя газеты. Карыстаецца попытам і "Газета Слонімская".



**Гандлярка квасам**: – У Зэльве ў трох месцах прадаецца хлебны квас. А вось у вас, у Слоніме, чула, што яго няма. Прыязджайце да нас. Зэльвенскі квас смачны і танны – за 1 літр усяго 130 рублёў. Жыхары нашага пасёлка яго вельмі любяць, асабліва, калі гарачае надвор'е.



**Наташа, Марына, Света, Іра**: – У Зэльве праходзяць дыскатэкі ў Доме культуры, кінатэатры. Іншы раз і на плошчы Леніна, пад адкрытым небам. Туды ходзім адпачываць. А летам ездзім да бабулі, у лагер.



**Жанчына, якая працуе ў бары на Савецкай вуліцы**: – Піва ў нас няма, але сёння паехалі за ім у Ліду. Людзей у бар летам ходзіць мала, усе працуюць на агародах. А так, у асноўным, адзін і той жа кантынгент наведвальнікаў. Вось вы да нас прыйшлі ўпершыню, таму для мяне гэта навіна.



**Сяргей ЁРШ, Сяргей ЧЫГРЫН, Віталь ГІЛЬ (фота)**


Зэльвенскі рынак

ЭКАЛОГІЯ

# Гіне Зэльвенскае вадасховішча

**Жыхароў Зэльвы вельмі трывожыць сённяшні стан Зэльвенскага вадасховішча. Справа ў тым, што яно зарасло водарасцямі. У выніку чаго пачынае гінуць рыба, а над наваколлем разыходзіцца непрыемны пах.**

Пракаменціраваць гэты факт карэспандэнту "ГС" пагадзіўся начальнік Зэльвенскай інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Сяргей Міканові. Ён сказаў, што вадасховішча ў Зэльве выклікае экалагічную трывогу. І калі некалькі дзён пастаіць спякотнае надвор'е, то ў возеры пачне гінуць рыба. Прычына адна – возера зарастае водарасцямі.

– На маю ўласную думку, – сказаў Сяргей Іванавіч, – яшчэ пры праектаванні і пабудове гэтага вадасховішча была зроблена памылка. У прыватнасці, пры агульнай плошчы вадасховішча 12 квадратных кіламетраў, трэба было паглыбіць возера. А пры пабудове гэтага не ўлічылі. Возера плыткае, яно зарастае водарасцямі. Рыбам не хапае кіслароду. Яны гінуць. Прыязджалі неяк іхтыёлагі з Мінска, але так нічога і не вырашылі, – сказаў Сяргей Мікановіч.

Да сказанага хочацца яшчэ дадаць, што Зэльвенскае вадасховішча было пабудавана ў 1983 годзе для арашэння зямель, воднага добраўпарадкавання прылеглых вёсак і рыбагадоўлі.

**Сяргей ЧЫГРЫН**



# ДЕТИ В БЕДЕ

**В Слониме зарегистрирована организация "Дети в беде", которая объединяет 24 семьи с детьми, болеющими раковыми заболеваниями.**

Недавно корреспондент "ГС" побеседовал с руководителем общества "Дети в беде" Надеждой Евсейчик" и спонсорам организации Валерией Вобелл.

По словам Надежды Евсейчик, организация "Дети в беде" существует уже давно, но была юридически зарегистрирована недавно. Это объединение людей, попавших в беду и пытающихся помочь друг другу. Государство не оказывает им поддержки, общество существует на благотворительные взносы. Это, пожалуй, одна из немногих организаций, не приветствующих роста своих рядов. Но, к сожалению, число детей, больных раком, все время увеличивается. Заболевания 90% детей связаны с чернобыльской катастрофой, поэтому им необходимо чаще выезжать в экологически чистые районы. А для этого организации нужна финансовая помощь. Эта беда может случиться с каждым человеком.

После передачи лекарств корреспондент "ГС" задала несколько вопросов Валерии Вобелл.

***— Как вы узнали о существовании организации?***

— Я сама белоруска, родом со Слонима. В Канаде живу 6 лет. О существовании организации узнала от мамы. Организовала там сбор средств в помощь белорусским детям. Люди собрали 500 канадских долларов, на которые были куплены лекарства.

***— Кто скорее откликнулся: организации или частные лица?***

— В сборе средств инициативу проявили небогатые канадцы. Почти никто из них не был в Беларуси, да и вообще в Восточной Европе. Но они знают, как здесь живут люди, знают о Чернобыле. Поэтому решили оказать помощь.



*Во время передачи медикаментов*

Валерия также пообещала помочь в организации лечения наших детей в Канаде.

**Антонина СНЫТКОВА**

**P.S.** Контактные телефоны организации "Дети в беде": 2-11-97, 2-91-44.

**ПОЧТА**



## Почему так платим?

Пишут вам жильцы девятиэтажного дома по улице Ершова, 40 города Слонима. А причина вот в чем: нам за лифт стали насчитывать по 45 рублей, хотя официально было сообщено, что оплата за лифт и радиоточку производится по старым ценам: 40 рублей за лифт и 66 рублей за радио. Я, как старшая дома, позвонила главному бухгалтеру ЖЭС, но так и не смогла получить четкий ответ: почему мы так платим?

**Барбара РУЖИЦКАЯ**

## *За что?*

Отрицательные эмоции переполнили мои чувства до предела, когда я получила извещение об уплате за "излишки" площади в квартире. Откуда вдруг взялись эти излишки, кто рассчитал нормы жилья на человека? Не тот ли, кто живёт в трёхэтажном особняке и его это нововведение не коснулось.

Особенно обидно людям, живущим в кооперативных квартирах. Ведь государство не вложило в эти дома ни копейки. Моему дому 22 года, и живут здесь, в основном, одинокие люди пенсионного возраста. Никто из них не смог получить государственные квартиры и приходилось работать на 1,5, а то и на 2 ставки, чтобы платить за жильё. Теперь коммунальные службы чётко не могут объяснить: почему мы должны платить за "излишки" площади? Говорят, за оказываемые услуги. Какие, простите! За вывоз мусора? Площадь моя здесь не при чём. Наоборот, чем меньше в квартире людей, тем меньше мусора. За подогрев воды? Опять площадь ни при чём. На меньшее количество людей — меньше тратится воды.

Так за что я должна платить 505 рублей, начисленных мне дополнительно?

**Жительница ЖСК**

# ПАДВЕДЗЕНЫ ВЫНІКІ фотаконкурсу "Усмешка"

На працягу пяці месяцаў "Газета Слонімская" праводзіла фотаконкурс "Усмешка". Рэдакцыя атрымала ад чытачоў вялікую колькасць фотаздымкаў. Праўда, усе іх змясціць мы не здолелі, таму публікавалі толькі лепшыя. Конкурс атрымаўся, і пераможцы вызначаны. Імі сталі сланімчанкі Святлана Кавалеўская (гл. "ГС" №14), Галіна Янушка (№14, 19), Кацярына Стралкоўская (№10). Галіна Янушка ужо другі раз удзельнічае ў нашых конкурсах. Цяпер яна стала пераможцай.



Працуе Галіна метадыстам на гуманітарным факультэце Гродзенскага універсітэта.



Святлана Кавалеўская часова не працуе. Яна выхоўвае двух сыноў, Мікіту і Андрэя.

Самая юная ўдзельніца конкурсу Кацярына Стралкоўская вучыцца ў 10-ым класе СШ №10 г.Слоніма.

Усе прыгожыя дзяўчаты атрымалі па торбачцы салодкіх ласункаў. Падарункі для пераможцаў прэзентаваў слонімец Раман Анціпаў. Таму хочацца сказаць дзякуй спонсару, а таксама пераможцам і ўсім удзельнікам конкурсу "Усмешка". А хто не перамог, адчайвацца не трэба. На летні перыяд у нас запланаваны новы фотаконкурс з каштоўнымі прызамі. Чытайце "ГС".

**Сяргей ЧЫГРЫН**

# БЕРЕГИТЕ МУЖЧИН

**В Беларуси самая большая в мире разница между ожидаемой продолжительностью жизни в "полном здравии" мужчин и женщин.**

Об этом свидетельствует отчет Всемирной организации здравоохранения (ВОЗ), в котором рассматривается средняя продолжительность жизни, которую жители различных стран проведут в "полном здравии".

Индекс средней ожидаемой продолжительности жизни с поправкой на болезни вычисляется таким образом, что время болезней "взвешивается" в соответствии с тяжестью заболевания и отнимается от средней ожидаемой продолжительности жизни. При этом, если белорусские женщины в среднем могут ожидать 67,2 года "полного здоровья", то для белорусских мужчин этот показатель составляет 56,2 года — разница в 11 лет. Вслед за Беларусью, наибольшая по этому индексу разница между мужчинами и женщинами в России (10,3 года), Латвии (10,1), Эстонии (10,0) и Казахстане (9,7). Эксперты ВОЗ объясняют такую разницу в странах бывшего СССР высоким уровнем употребления алкоголя среди мужчин, что ведет к высоким показателям несчастных случаев, насильственных преступлений и сердечных заболеваний.

В общем списке Беларусь занимает 83-е место в мире — младенец, рожденный сегодня в Беларуси, может рассчитывать в среднем на 61,7 года жизни в "полном здравии". Наилучший показатель — в Японии (74,5 года), а наихудший — в африканской стране Сьера-Леоне — 25,9 года.

**БелаПАН**

# НАВУКА СЁННЯ НЕ Ў ПАШАНЕ

**Як паведамляе абласное ўпраўленне статыстыкі, на 1 студзеня 2000 года на Гродзеншчыне налічвалася 528 работнікаў сферы навуковай дзейнасці.**

Гэта на 62 чалавекі або 10,5% менш, чым год назад. З агульнай колькасці работнікаў навуковай дзейнасці 278 чалавек складалі даследчыкі, 83 чалавекі — тэхнікі, 130 чалавек — дапаможны персанал. Найбольш даследчыкі займаліся тэхнічнымі навукамі (113), а найменш грамадскімі і гуманітарнымі (16). Ступень доктара навук мелі 11 навукоўцаў, кандыдата навук — 65.

**Наталля ФУРСАВА**

# Крылатые ФРАЗЫ

— Чем отличается молодой холостяк от старого? Молодой холостяк наводит дома порядок, чтобы пригласить женщину, а старый приглашает домой женщину, чтобы она навела порядок.

— На первый брак спрашивайте согласия у своих родителей, а на второй — у своих детей.

— Девушку надо уговаривать, а с женщиной можно договориться.

— Женщина сначала жалеет мужчину, а потом желает его. А мужчина сначала желает женщину, а потом жалеет себя.

— Мужчина честно признаётся женщине в своих недостатках, когда хочет, чтобы она его разлюбила, но она так восхищается его честностью, что прощает ему все недостатки и любит ещё сильней.

— С точки зрения женщины, содержательный мужчина — тот, который может её содержать.

— Женщина любит мужчину, потому что он любит её, а мужчина любит женщину, потому что он вообще их любит.

— Если вы хотите жениться на красивой, умной и богатой, вам придётся жениться три раза.

— Женщина постарела, если врач её только выслушивает, а не осматривает.

— Первым в любви признаётся тот, у кого не выдержали нервы.

— Студенту нельзя жениться. Будет заниматься только женой — у него появятся хвосты. Будет заниматься только учёбой — у него появятся рога. А будет заниматься тем и другим — отбросит копыта.

— Женщина — как крепость: одной можно овладеть после первого штурма, другой — после долгой осады, а третьей — после переговоров.

— Женщина обычно бросает мужчину в том случае, если он от неё ушёл.

**Николай ГУЩИН**

**РЕЦЕПТ**

## Домашнее ванильное МОРОЖЕНОЕ

2 стакана сахара, 1/3 стакана муки, 6 стаканов молока, 1,5 чайн. ложки соли, 6 яиц, 3 стакана жирных сливок, 1 стол.ложка ванильного сахара, 4 кг. толченого льда. (получается 3 кг)

В большой кастрюльке соединить сахар, муку, соль и смешать с молоком. Постепенно помешивая, подогрейте на медленном огне - пока смесь не начнет закипать. Отдельно взбейте яйца, немного добавьте горячей молочной смеси, перемешайте. Затем медленно влейте яйца в остальную молочную смесь, активно мешая. Снова поставьте на огонь и, постоянно помешивая, нагревайте массу в течении 5 минут. Снимите получившийся крем с огня и остудите в течении 3 часов. Чтобы на поверхности не образовалась корочка, накройте крем пищевой пленкой. Миксером взбейте крем вместе со сливками, добавьте ванильный сахар. Вылейте в емкость с толстыми краями, накройте и поставьте в еще большую емкость, налейте в нее 2 стакана воды, выложите лед, пересыпая его солью. Оставьте на 35 минут. Разложите мороженое в формы и поставьте в морозильник на 2-3 часа.

# ПЛАНУЮЦЬ АДНАВІЦЬ СВЯТЫНЮ

**Альбярцінскія каталікі плануюць аднавіць фігуру Ісуса Мілісэрнага, якая была ўстаноўлена ў сярэдзіне 1930-х гадоў каля мясцовага касцёла і уніяцкай царквы.**

У першыя пасляваенныя гады савецкія актывісты знішчылі фігуру, а на яе месца паставілі скульптуру піянеркі, якая, праўда, хутка развалілася. Некалькі гадоў назад вернікі знайшлі ніжнюю частку разбітай фігуры Ісуса Мілісэрнага, але пакуль невядомы лёс яе другой часткі.

"Хацелася б аднавіць гістарычную праўду і справядлівасць, — гаворыць айцец Вітольд Жэльветра. — Аднавіць фігуру Ісуса Міласэрнага на тым самым месцы, дзе яна была першапачаткова. Таму звяртаемся па дапамогу да гараджан, тых, хто бачыў тую знікшую частку ці нешта ведае пра яе лёс. Будзем усім удзячны".

**Сяргей ЁРШ**



*Альбярцін, 1938 г.*

